# Беларускі Звон

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Біскупская вул. 12. Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтора і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана кожнага нумару 30 м. Падпіска на 3 месяцы каштуе 400 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: перад тэкстам 150 мк., сярод тэксту 200 мк і на апошняй страніцы 70 мк. за радок пэтыту ў 1 шпальт.

Год I. Вільня. Пятніца, 4-га лістапада 1921 г. № 19.

## Час вылячыў.

Што некаторыя групы беларускага грамадзянства займаліся ідэяй адраджэньня Бацькаўшчыны праз дружнае супрацоўніцтва з імі і рэальную падмогу Польшчы аб гэтым няма што й казаць.

Навет больш таго — ў часе прыезду Начальніка Польшчы Я. Пілсудскага ў Менск, пасьля заняцьця гораду палякамі пад восень 1919 г. *ня было ніводнае беларускае групы*, якая ўхілілася-б ад пасылкі дэлегацыі да Галавы Польскае Дзяржавы для ўзаемнага выказаньня паглядаў на створаныя ваеннымі надзеямі факты.

Была вельмі няўдачная спроба супольнай ваеннаю сілаю бараніцца ад маскоўскага, хаця тымчасам і чырвонага імпэрыялізму і была створана нябожчыца Беларуская Вайсковая Камісія дзеля арганізацыі беларускага нацыянальнага войска.

І ўсё гэта пры дружнай згодзе ўсяго беларускага грамадзянства бяз розьніц партыйных.

Рэч толькі ў тым, што адны беларусы, дзякуючы мо' большай блізкасьці для іх польскае культуры, захапляліся гэтак званай „польскай орыентацыяй“ зусім, а іншыя глядзелі на справу цьверазей і ня надта сьлепа верылі часамі аджыўшым лёзунгам, як, напр. „вольны з вольным“ і г. д.

Факты тагочаснага беларускага жыцьця ў Менску й Меншчыне шмат каго змушалі задумацца над тым, да чаго давядзе вышэйсказаныя орыентацыя.

Добрая „вольнасьць“, калі рэдакцыя адзінай тады штодзеннай беларускай часопісі „Беларусь“ у Менску, ня гледзячы на яе досіць выразную орыентацыю, два раза была равідована жандарамі, а некаторыя супрацоўнікі й рэдактар цягнуліся пад суд па гэткіх артыкулах, як 128, 129!

Ужо гэта „дробнае“ здарэньне шмат каму было халоднай вадою на галаву, прасьвятляючы распаленыя мазгі, прывыкшыя бачыць збаўленьне не ў рашучым жаданьні свайго народу жыць так, як яму належыць, а ў розных „братэрскіх“ падмогах відочных захватнікаў.

Аб здарэньнях іншых хай расказажа нам гісторыя.

Цяпер ужо ясна толькі адно, што ад сьляпое орыентацыі ў бок Польшчы час памог вылячыцца ўсяму беларускаму грамадзянству.

Гэта відаць хаця-бы з таго, што йнакшымі вачыма на братэрства з Польшчай глянуў гэткі крыштальна чысты сумленьнем стары беларускі працаўнік, як грамадз. Лявон Дубяйкоўскі, судзячы па яго выступленьню на нарадзе ў Празе Чэскай.

А ня трэба запамінаць, што грам. Дубяйкоўскі вельмі нядаўна яшчэ рабіў выступленьні ад бяз жыцьця памёршае „Найвышэйшае“ Рады.

Апошні вартавы з пэўнага лагеру, нарэшце, мусіў такі пакінуць свой пост.

Праўда дасюль яшчэ беларускія адзінкі пад розным *краёвым* сосам стараюцца жыць збанкрутаваўшаю ідэяй, але гэта людзі, якія так ці йначай зусім разьмяняліся.

Беларуская дэмократыя местаў і вёсак, беларускі селянін і рабочы ніколі з гэткімі „краёўцамі“ ня згодзіцца, ніколі не паверыць ім і ня будзе навет залічаць іх да беларускага грамадзянства.

Бо шмат каму з дайшоўшых да „краёвай“ ідэолёгіі сама зьмена ідэолёгіі роўназначна зьмене капітана, альбо крахмальнага каўнерчыка.

Ніякія, найяскравейшыя жыцьцёва-палітычныя досьледы іх ніколі нічаму не навучаць.

Беларускае грамадзянства ніколі не павінна ўхіляцца і напэўна ня ўхіліцца ад патрэбнага паразуменьня з сваімі суседзямі і дайдзе да гэтага з тымі з іх, якія лічацца ў палітыцы не з аднымі толькі фактарамі грубай фізычнай сілы, а шануюць права кожнага народу на вольнае існаваньне.

Але разумны контакт — рэч вельмі далёкая ад сьляпога імкненьня заўсёды ў адзін бок.

Шчыра - беларускае грамадзянства застанецца самым сабою заўсёды. Яго неспрактываныя ў палітыцы і часам слабыя на вочы й галаву часткі не расхварэюцца зусім, бо іх заўсёды патрапіць вылячыць час—гэты найлепшы лекар, які відочна ўжо шмат каго вылячыў ад. праз меру, вялікага імпату палітычнае наіўнасьці.

---

Грамадзяне, спаўняйце сваю павіннасьць, запісуйцеся ў „Т-ва Беларускае Школы“!

---

## Мэморыял Цэнтральнае Беларускае Школьнае Рады да Міністра Асьветы Польскае Рэспублікі.

„ВАША ЭКСЦЭЛЕНЦЫЯ!

„Вольныя з вольнымі“, „Роўныя з роўнымі“—вось харошыя лёзунгі, што несьлі польскія легіёны выпісанымі на сваіх штандарах, якія абвяшчалі заўсёды з пераканаеньнем прадстаўнікі Польскага Гаспадарства ў яго барацьбе за ўсходнія межы, родзячы ў суседніх народаў пэўныя надзеі на Польшчу, як на асвабадзіцельку і абароньніцу іх нацыянальных правоў. Цяпер ужо гэная барацьба скончылася, межы ўстаноўлены. Цяпер Устаноўчы Сойм прыняў ужо конституцыю Рэчыпаспалітай, якая гвар антуе кожнаму грамадзяніну „права захаваньня свае нацыянальнасьці і разьвіцьця свае мовы і нацыянальных асаблівасьцяў.

Мы ня кажам навет аб такіх фактах паміжнароднага значэньня, як вэрсальскі і рыскі трактаты, што гвар антуюць правы нацыянальных меншасьцяў. І аднак цяпер у вадносінах да беларускага народу, якога часьць апынулася ў межах Польшчы, мы ня бачым правядзеньня ў жыцьцё гэных лёзунгаў, спаўненьня гэных надзеяў.

Жыцьцё пярэчыць усім харошым лёзунгам аб свабодзе, а адміністрацыйная практыка на беларускіх землях ідзе ня толькі проці прынцыпаў конституцыі і ўсялякіх паміжнародных трактатаў, але гвалціць часта самыя элемэнтарныя правы да жыцьця беларускага народу.

У ніводнай можа обласьці беларускага жыцьця так ня чуецца страшэнная розьніца паміж лёзунгамі і дзелам, паміж замерамі і ажыцьцяўленьнем іх, як у вобласьці школьнай, у гісторыі беларускае школы, перасьледаванай, гвалтаванай і сыстэматычна руханай школьнымі ўладамі.

У 1919 г. пры першым занятку польскім войскам беларускіх зямель, у беларускім грамадзянсьцьве і беларускім народзе была надзея, што пры польскай уладзе будзе магчымасьць культурна-асьветнае працы, а значыцца наўперад працы школьнае. Беларускую школьную працу можна была павесьці адразу шырака, бо ў сьвядомым нацыянальна беларускім грамадзянсьцьве ставала сіл, адпаведна прыгатаваных да працы ў школах. Адразу таксама зьвярнулі ўвагу і на вучыцялёў Беларусоў, якія дагэтуль з прычыны забароны беларускіх школ прымушаны былі вучыць у расейскіх школах. Гэтае вучыцельства, паходзячае выключна з беларускага сялянства, яшчэ ў 1906 г. мела сваю беларускую патайную арганізацыю „Беларускі Вучыцельскі Саюз“, якога некаторыя сябры былі выкрыты і засуджаны на выгнаньне ў Сыбір. Гэтае вучыцельства за апошнія гады, падчас рэвалюцыі ў Расеі, аканчальна ўсьвядомілася нацыянальна і праслухаўшы хоцьбы каротка-часовыя беларускія курсы, магло-б вучыць у беларускіх пачаткавых школах. Дык дзеля гэтага вучыцельства былі зарганізаваны беларускія курсы ў 1919 г.—двое ў Вільні і двое ў Менску. У Вільні скончыла курсы 385 вучыцялёў і ў Менску каля 400. У пазьнейшым часе ў 1920 г. было яшчэ некалькі курсаў у Менску і адны ў Слуцку. На віленскіх курсах вучылася вучыцельства з Віленшчыны і Горадзеншчыны, на менскіх—з Віленшчыны і Меншчыны. Курсы гэныя былі зарганізаваны з дазваленьня і матар'яльнае падмогі польскае ўлады.

Але калі па сканчаньні курсаў з пачаткам школьнага году з сотняў месц пачалі падаваць просьбы аб адчыненьні беларускіх пачаткавых школ, то ўсіх сустрэла расчараваньне. Бо аказалася, што гэныя курсы былі часоваю ўступкаю польскае ўлады беларускаму школьнаму руху.

Школьная палітыка п. Зарэцкага, шэфа сэкцыі асьветы ў «Цывільным упраўленьні Усходніх Зямель» і акружнога школьнага інспэктара п. Вэнслаўскага была абсолютна варожая да беларускіх школ, дзеля чаго зусім не дазвалялася адчыняць беларускія школы ў Віленшчыне і Горадзеншчыне. Нічагусенькі не памаглі пастановы валасных і вясковых зборак ды дзесяткі і сотні подпісаў сялян пад кожнай просьбаю беларускае школы. Ня толькі не дазвалялі адчыняць беларускіх школ, але стараючыхся іх звычайна пад рознымі закідамі арыштовавалі, выбіраючы інтэлігэнтнейшыя адзінкі, якія маглі кіраваць школьным рухам, а значыцца, наўперад вучыцельства. Мала было шчасьлівых, якія ня былі-б хоць-бы раз адзін арыштаваны, і ня было ніводнага вучыцеля — беларуса, якога-б не пастрашалі арыштам. З арыштованых шмат было вывезена ў лагеры інтэрнаваных у глыб Польшчы. У 1919—20 школьным годзе, за надта рэдкімі вынятками, ня толькі не пазволілі закласьці беларускіх школ, але зусім чыста парухалі і тое, што беларускае грамадзянства здабыло пры нямецкай уладзе (150 школ у Горадзеншчыне) і расейскай (45 школ у Вялейскім павеце і 60 у Дзісьненскім павеце). Зачынілі наапошку беларускую гімназію ў Будславе, Вялейскага павету. Дзеля гэтага беларускае вучыцельства, што з самага пачатку бальшавіцкае рэвалюцыі ў 1917 г. заўзята ходалася проці бальшавізму, што выразьліва выказала свой антыбальшавіцкі настрой на многіх зьездах вайсковых, агульна-становых, вучыцельскіх і інш., наапошку на Усебеларускім Конгрэсе, гэтае вучыцельства, ня могучы дастаць беларускае школы, а ў польскія ня хочучы йсьці, перасьледаванае за свае беларускія пераканаьньні мусіла выяжджаць з краю. Гэтак, пры адступленьні бальшавіцкіх войск у 1920 г. з аднае толькі Горадзеншчыны некалькі сот вучыцялёў выехала ў Савецкую Беларусь. Цяпер гэнае вучыцельства вельмі энэргічна вядзе там пропаганду ідэі адабраньня ад Польшчы беларускіх зямель.

У Меншчыне ня было ўрадовае забароны беларускіх школ, але польская адміністрацыя вяла сыстэматычную барацьбу з беларускімі школамі. Досыць ахвотна навет дазвалялі адчыняць расейскія школы, але трэба было надзвычайных, проста геройскіх стараньняў, каб закласьці беларускую школу. Дзеля барацьбы з беларускімі школамі былі выдуманы т. зв. маскоўска-польскія школы, вельмі паддзержаваныя ўладаю. Ад'значаліся яны тым, што ўва ўсіх аддзелах пакінена была выкладовая мова маскоўская, а ў аддзеле першым уводзілася вы-

кладовая польская мова, каб к налецьцю ўвесьці польскую выкладовую ў другі аддзел і г. д. Сьвядомае беларускае вучыцельства ня йшло ў гэныя школы, бо дамагалася сваіх нацыянальных, і затое з імі блага абходзіліся, а часта і перасьледавалі. Затое вучыцельства маскоўскае орыентацыі, боручыся з беларускімі школамі і рухам, каб захаваць маскоўскія школы, хапалася за гэныя школы, спадзяючыся, што польская ўлада нядоўга пратрывае, што ў Меншчыне і споўнілася. Насьледкам гэткае ўрадовае палітыкі ў адносінах да беларускіх школ, у Меншчыне хоць і была сотнядругая беларускіх школ, то аднак маскоўскія школы пераважавалі. Беларускія школы ўзялі верх над маскоўскімі школамі ў Меншчыне ня пры польскай уладзе, але толькі цяпер пры ўладзе бальшавіцкай. Бальшавікі, навучаныя відавочна дазнаньнем апошніх гадоў, уцемілі значэньне беларускага пытаньня, зьвярнулі належную ўвагу на справу разьвіцьця беларускае асьветы. У працягу апошняга школьнага году ў Савецкай Беларусі створана густая сетка беларускіх пачаткавых школ (Савецкая Беларусь мае цяпер на 1.300.000 насяленьня—230 тысяч (або 18%) вучанікоў пачаткавых школ, закладзена на гэным невялічкім прасторы каля 120 сярэдніх школ, наапошку закладзены Беларускі Гаспадарсьцьвенны Унівэрсытэт у Менску з пяцьма факультэтамі (паміж іншым фізыка-матэматычным, агранамічным і мэдыцынскім). Адчынены таксама Беларуская політэхніка, Пэдагогічны інстытут і навет адмысловы Навуковы Інстытут Беларускае Культуры. Беларуская мова ўведзена як прадмет абавязковы ў сярэдніх школах усіх нацыянальнасьцяў, а ў пастановах савецкага ўраду разглядаецца, прыкладам, выдавецтва школьных беларускіх кніг як „ударная задача“. Штодзень выдавецкі аддзел мусіць даваць справаздачу ўраду аб працы ў беларускім выдавецтве. Тэхнічная выдавецкая работа перанесена адчасьці заграніцу, ў Нямеччыну, куды выехала адмысловая камісія з значнымі грашыма, ўсё, адным словам, сьведчыць аб тым, як сур'ёзна савецкія ўлады адносяцца да справы беларускае асьветы. Бяссумлеву маняцца яны выкарыстаць гэтыя свае ўступкі беларускаму руху, як вельмі сур'ёзны козыр у якойсь будучай палітычнай гульні. Калі зьвернемся цяпер да беларускіх зямель, у якіх гаспадарыць польская ўлада, ад якое беларускае насяленьне мае права спадзявацца вялікшага зразуменьня сваіх нацыянальных патрэб, то ўгледзім, што гэткія спадзевы зусім не апраўдаваюцца.

Некалькі лічбаў выясьняць палажэньне гэтае справы. Вось-жа жыве на гэтых землях, як паказуе ўрадовая, навет польская, статыстыка, прынамсі паўтара мільёна беларусаў. Папраўдзе, лічба беларусаў на гэтым прасторы даходзіць 2 мільёнаў, бо адных толькі праваслаўных 1.200.000 чал., а як ведама значная частка беларусоў належыць да рымска-каталіцкае веры. На гэткую колькасьць насяленьня прыходзілася-б пры агульным навучаньні, прынцып якога ўжо прыняў Польскі Сойм, каля 8—10 тысяч школьных комплектаў, і навет у царскія часы на гэткую колькасьць насяленьня прыходзілася-б ня меней 2000 школ. Таксама ў Галіччыне ў перадваенныя часы гэткая колькасьць польскага насяленьня дастала-б ад аўстрыяцкага ўраду каля 5000 пачаткавых школ. Беларусы аднак ад ўваскросшага Польскага Гаспадарства не дасталі гэтулькі навет, колькі самі палякі мелі ў часы найгоршага ўціску чужых урадаў, не дасталі — блізу нічагусенькі.

У леташнім 1920—21 годзе беларускія школы нормальна разьвіваліся ў Сярэдняй Ліцьве і то толькі ў працягу двух месяцаў: сьнежня 20 г. і студня 1921 году. За гэты час у Сярэдняй Ліцьве паўстала 180 беларускіх школ, сярэдня па 60 дзяцей у кожнай. Пад канец гэтага школьнага году, пачалі чапаць беларускія школы і ў Сярэдняй Ліцьве, тады таксама зрабілі балючы выцень беларускай школе, зачыняючы адзіную беларускую вучыцельскую сэмінарыю ў Барунах, Ашмянскага павету.

У беларускіх-жа землях, залежных беспасярэдня ад Варшавы, блізу што зусім ня было ўрадовых школ. Былі, праўда, беларускія прыватныя школы, але з прычыны варожых адносін улады і гэтых было ня шмат. Цэлыя амаль паветы. Вялейскі і Дзісьненскі ня мелі ніводнае школы, бо ў польскія школы насяленьне не хацела пасылаць сваіх дзяцей, а беларускіх не дазвалялі закладаваць. Крыху балей было прыватных беларускіх школ у пав. Наваградзкім, Баранавіцкім і Несьвіскім, але часта ледзь адна беларуская школа была на некалькі воласьцяў. Дзеля тае-ж прычыны праваслаўнае, а адчасьці і каталіцкае беларускае насяленьне Горадзеншчыны пераважна ня мела ніякае школы.

Ня гледзячы на гэткія адносіны польскае ўлады да беларускіх школ, беларускі народ не перастаў дамагацца нацыянальнае школы; наадварот перад пачаткам новага школьнага году даманьне нацыянальнае школы паўтарылася з новаю сілаю. Дзеля гэтага цяпер вядзецца заўзятая барацьба школьнае адміністрацыі і наагул мясцовае польскае адміністрацыі з беларускаю школаю.

Вось жменя фактаў, якія ілюструюць цяперашняе палажэньне беларускае школы. Мы ўзялі іх з інформацыяў газэт, што выходзяць у Польшчы, або ў Сярэдняй Ліцьве. Інформацыі гэтыя ня былі нікім запярэчаны, што дае нам права зусім ім верыць.

Цераз некалькі апошніх месяцаў толькі ў двух паветах — Валожынскім і Вялейскім, адлучаных ад Сярэдняе Літвы і прылучаных да Наваградзкага ваяводзтва, ўлада зачыніла больш як 120 пачатковых беларускіх школ. Памяшчэньні тых школ, як урадовыя, так і прыватныя, адміністрацыя рэквізавала на патрэбы польскіх школ. Увесь інвэнтар беларускіх школ, як лаўкі, дошкі і інш., зроблены коштам гаспадароў і да іх належачы, таксама адбіраюць ад беларускіх школ і аддаюць польскім, ня гледзячы на просьбы, скаргі і протэсты. Калі насяленьне спраціўляецца польскай школе, ўлады страшаць яго штрафамі і карамі.

У вялікшасьці паветаў Наваградзкага ваяводзтва школьныя інспэктары проста заяўляюць, што ўрадовыя беларускія школы забаронены, а могуць быць толькі прыватныя (інспэктар Валожынскага павету). Калі-ж прыходзяць з просьбаю аб адчыненьні прыватнае беларускае школы, то ў адным прыпадку кажуць, што і прыватныя беларускія школы забаронены (інспэктар Валожынскага пав.), у іншым прымаюць просьбы, кажучы, што мусяць пераслаць вышэйшай уладзе; праходзіць аднак даўгі час, а адказу на просьбы ніякага няма (інспэктар Вялейскага пав.). Здараецца нярэдка, што ў людзей, якія зьяўляюцца з просьбаю аб адчыненьні беларускае школы, просьбы кідаюцца з крыкам: «На што хамскія беларускія школы!» Паводле паведамленьняў беларускае прэсы здарэньні гэткія найчасьцей бываюць у інспэктара Валожынскага павету. Іншыя ўзноў інспэктары, як прыкладам, цяперашні інспэктар Наваградзкага павету, асьцярожна заяўляюць, што яны ня маюць ніякіх інструкцыяў у справе адчыненьня беларускіх школ і найпэўней, што беларускіх школ зусім ня можна закладаць.

У вусім Наваградзкім ваяводзтве, як і ў іншых ваяводзтвах, усе беларускія вучыцялі з адукацыяй ад 4 да 7 кляс уключна сярэдніх школ звольнены з прычыны нястачы кваліфікацыі, а тымчасам у польскіх школах ня толькі, што застаюцца вучыцялі з гэткімі і з ніжэйшымі кваліфікацыямі, ня толькі прыймаюць новых вучыцялёў з гэтакімі-ж кваліфікацыямі, але навет даходзіць да таго, што звольненым з беларускіх школ вучыцялём з прычыны нястачы агульнае адукацыі, або за няўменьне польскае мовы, школьны інспэктар прапануе вучыцельскае месца ў польскіх школах (паветы Валожынскі, Вялейскі і інш.).

Школьныя інспэктары разам з начальнікамі рэвіраў і жандармэрыяй стараюцца зьняславіць уваччу насяленьня беларускую школу, агітуючы за школу польскую, або, дзе ніякай мераю гэткай не ўдаецца правесьці, за расейска-польскую. Напару, каб сваёй дзеяльнасьці прыдаць якісь выгляд праўны, школьныя інспэктары, разам з начальнікамі рэвіраў зьбіраюць паседжаньні валасных рад, каб правесьці пастановы аб адчыненьні польскіх або расейска-польскіх школ. Дзеля таго, што сябры валасных рад і войты блізу ўсюды былі назначаны і то яшчэ ў 1919 г., то падобныя пастановы ўдаецца правясьці вельмі лёгка. Дык няма нічога дзіўнага, што звычайна бывае так: валасная рада пастанаўляе адчыніць толькі польскія школы, а насяленьне ўсяе воласьці выказуецца за беларускаю школаю (п. п. Валожынскі, Ашмянскі). Асабліва гэткім спосабам карыстаюцца школьны інспэктар Валожынскага пав. ды школьны інспэктар Ашмянскага пав. разам з сваім заступнікам.

Адначасна ўсялякую найнявіньнейшую пропаганду беларускае школы лічаць антыгаспадарсьцьвеннаю агітацыяю і за яе арыштоўваюць. Вучыцельства з расейскімі сымпатыямі ідзе даволі ахвотна ў расейска-польскія і навет у польскія школы, спадзяваючыся, што прыйдзе калісь час адраджэньня Расеі, якая назад адбярэ заходня-беларускія землі, што датуль польшчына ў школе не патрапіць умацавацца і як чужая насяленьню, лёгка можа быць аддалена, тады як з беларушчынаю барацьба была-б у падобных варунках блізу што немагчымаю. З другога боку ідэйнае беларускае вучыцельства, выкіненае з школ, а часта і перасьледаванае (асабліва ў Горадзеншчыне і ў Лідзкім павеце) не перастае эміграваць у Савецкую Беларусь.

Школьныя ўлады, як бачым, сыстэматычна боруцца з беларускаю школаю. У апошнія часы знойдзены новыя спосабы гэтае барацьбы. Звольніўшы ўсіх вучыцялёў беларускіх школ, якія скончылі меней як 8 кляс гімназіі, або вучыцельскае сэмінарыі, рэшту беларускіх вучыцялёў пасылаюць у пачатку сёлетняга школьнага году на 10-месячныя курсы польскае мовы ў Кракаў. Хто адмаўляецца ехаць на гэтыя курсы, таго звальняюць, ад тых-жа, што згаджаюцца ехаць, вымагаецца падпісаньне забавязаньня, што, скончыўшы курсы, будуць працаваць у польскіх школах (Валожынскі пав.). Забавязаньняў, зробленых самымі вучыцялямі, што будуць яны, скончыўшы курсы, працаваць у беларускай школе, інспэктары ня прыймаюць (Вялейскі пав.). Разам з гэтым школы тых вучыцялёў, якія згадзіліся ехаць на курсы ў Кракаў, рэформуюцца ў польскія і ў іх ужо назначаны польскія вучыцялі.

Палітычная мэта гэтага высыланьня беларускіх вучыцялёў у Кракаў на ўвесь школьны год ёсьць зусім відавочная: гэта парухаць беларускія школы. Бо лёгка маглі-б беларускія вучыцялі навучыцца польскае мовы ў сваіх родных паветах на летніх дадатковых курсах. Аднак на гэткія курсы сёлета беларускіх вучыцялёў ня прыймалі.

Гэткія адносіны ўлады да беларускіх школ у Наваградзкім ваяводзтве і ў Сярэдняй Ліцьве. Яшчэ горшая справа ў вая-

Францішак Аляхновіч.

# ПТУШКА ШЧАСЬЦЯ

п'еса ў 4-х акт.
са сьпевамі і танцамі.

°°°°°°°°

(Гл. № 18).

**Маланка.** А ты нашто мне пазволіў?

**Янка.** А што-ж было рабіць, калі ты прычапілася, як смала?

**Маланка.** Трэба было лупню даць, ты-ж муж, гэта тваё права... Значыцца ты мяне ня любіш, калі ня б'еш, значыцца я для цябе ня жонка, а нейкая калода! (плача).

**Янка.** Вось — ізноў пачалося на маю галаву! (да сябе). А можа й запраўды палупцаваць?

**Маланка.** О, бедная я, бедная!

**Янка.** Ой, я бяднейшы за цябе, бо праз цябе і ў раі ня меў супакою. Ты навет тут патрапіла атруціць мне жыцьцё... Ну, але няма рады: сказана ветла: ідзеце вон да свае хаты, дык і трэба ісьці, каб яшчэ ляпей не папрасілі... Яшчэ толькі вып'ю на дарогу адну-другую чарку... (хоча наліць сабе гарэлкі, стол ад яго ўцякае; злавіўшы стол, аднэй рукой устрымоўвае яго, а другой налівае сабе чарку). А, чакай, брат, яшчэ я цябе ня пушчу! Няма што шкадаваць чалавеку чарку гарэліцы за тое толькі, што мае злую бабу... (п'е) Фу! вада! Ну, значыцца ўзапраўды прапаў ужо мой рай... Ну, калі так—дык нічога не парадзіш: трэба зьбірацца да хаты... Вось толькі закурыў-бы яшчэ на дарогу люльку з райскім тутуном — лахі-пад-пахі!.. (кліча) Гэй вы! ведзьмы! дайце, калі ласка, яшчэ крыху райскае махоркі!

(Убягаюць 2 Духі, так як раней—адзін з люлькай, другі з паходняй. Янка запальвае люльку, каторая робіць ўзрыў з-пад зямлі клубкі дыму. Грыміць гром, бліснула маланка, пацямнела).

**Янка** (кідаючы люльку). Фу! якое ліха!.. Маланка! хутчэй уцякайма да хаты, бо ведзьмы нас тут пагубіць хочуць. (Ударыў Пярун і Янка з Маланкай правальваюцца пад зямлю).

Заслона.

## АКТ III.

Дэкорацыя такая, як у І-м акце. Янка сьпіць на зямлі.

**Маланка** (выходзіць з хаты). Ну, ўжо вячэра гатова, ідзі бульбу есьці. Што-ж гэта? Ен заснуў? Ну, ўставай, павячэрай і кладзіся спаць у хаце, бо заўтра трэба рана ўстаць... Ну, Янка, а Янка!

**Янка.** Нашто місу адчыніла? Птушку на што выпусьціла?

**Маланка.** Якую птушку? Куры ўжо ўсе даўно я загнала ў катух, сьпяць ужо.

**Янка.** Птушку нашто, ведзьма, выпусьціла? нашто місу адчыніла?

**Маланка.** А куды-ж мне было бульбу сыпаць? Адчыніла, бо ўжо бульба зварылася? Ты здурэў, ці сьніш?

**Янка** (прачхнуўшыся). А—гэта-ж я, ўзапраўды спаў... І, ведаеш, прысьніўся мне сон, што мы былі ў раі і ты тамака выпусьціла птушку, якая сядзела ў місе.—Вось навет гэтакая самая была міса.

**Маланка.** Трэба буздзе спытацца бабку Агату, што гэта значыць, бо яна ўмее добра сны тлумачыць... Можа гэта на якое ліха?

**Янка.** Вось праз цябе, калі ня будзеш мяне слухацца, і будзе якое ліха!

**Маланка.** Але! Цябе слухацца!.. Ты з тваім дурным розумам мяне павінен слухацца, а ня я цябе... Баба заўсёды разумнейшая за мужыка!

**Янка.** Брэшаш! Не даводзь мяне да злосьці!

**Маланка.** А ну, дык што мне зробіш? Не баюся я цябе!

**Янка.** Што я зраблю? Вось зараз пабачыш. Вось я накрываю гэту місу гэтай талеркай... бачыш?..

**Маланка.** Бачу.

**Янка.** Вось як я скажу табе: ня сьмей адчыняць гэту місу!—каб ня ведаю што, каб ня ведаю які чорт цябе спакушаў, а ты ня сьмей!—каб тут гарэла, а ты ня сьмей, каб навет табе страх як захацелася глянуць у місу—а ты ня сьмей!..

**Маланка.** А ў чым-жа будзем бульбу ды зацірку есьці?

**Янка.** Другую куплю, а гэтай ня сьмей адчыняць!

**Маланка.** Як захачу, дык і адчыню, што-ж мне зробіш?

**Янка.** А вось што зраблю..., а вось што зраблю... (адшпільвае дзягу і пачынае лупцаваць Маланку; яна з піскам уцякае ў хату; Янка за ёю).

**Маланка.** Ай! людзі! Ратуйце!

Зьява 2.

**Жыд** (уваходзіць). Ой-вай! І на што я сказаў бабе аб гэтай гарэлцы! Толькі нарабіў бяды—сабе гэшэфт папсаваў, а мужыку нарабіў клопату... Бабе ніколі ня трэба ведаць аб мужчынскіх справах, бо баба гэта ёсьць... ну, адным словам, гэта—баба! У бабы валасы даўгія, дык розум у галаве ня трымаецца, а ўвесь вылазіць з галавы і лезе ў валасы

водзтвах Палескім і Беластоцкім ды ў Лідзкім павеце: усялякі спамінак аб беларускай школе лічыцца там „беларускай агітацыяй“ значыцца — „антыгаспадарсцьвенным праступленьнем“.

Гэткія адносіны польскае ўлады да беларускіх школ стрывожылі ўсё беларускае грамадзянства і беларускі народ. Няма также ніводнае беларускае газэты ажно да найбалей полёнофільскіх уключна, якія-б не протэставалі проці гэтага. Гэткія навет газэты, як „Jednaść“, „Родная Страха“, якія выразьлівей паддзержаваюць польскую гаспадарственасьць на беларускіх землях, крычаць гвалт з прычыны школьнае справы.

Дапушчаючы, што ўсе прыведзеныя факты ёсьць наўперад праявы самадуму мясцовых ураднікаў і што цэнтральным уладам Польскае Рэчыпаспалітае прадстаўляюцца ў асьвятленьні вельмі адыходзячым ад праўдзівасьці, мы зварочуемся гэтым да Вашае Эксцэленцыі з просьбаю палягчыць долю беларускай школы ў Польскім Гаспадарсьцьве. Мы думаем, што ёсьць гэта можа найбалей у інтарэсах польскае гаспадарсьцьвеннасьці, а рупатлівыя яе сыны, перасьледуючыя на мясцох беларускую культурную работу, дзеюць несьвядома на шкоду Польшчы, або так жа сьвядома яе падкопуюць.

Не сумляваючыся, што Польскі Урад захоча выслухаць нашае просьбы, падаём практычныя постуляты ў справе беларускіх школ, адпавядаючыя мінімальным дамаганьням у гэтай справе беларускага грамадзянства.

Постуляты вось гэткія:

1. Утварэньне сеткі беларускіх пачаткавых школ, адпавядаючай колькасьці беларускага насяленьня і прынятку ўжо істнуючых школ на кошт Гаспадарства.

2. Спыніць экстэрмінацыйную палітыку ў адносінах да беларускага вучыцельства; перастаць прымусова вывозіць беларускае вучыцельства на курсы ў цэнтральныя землі Польшчы.

3. Адчыніць для беларускіх вучыцялёў у сёлетнім школьным годзе Беларускую Вучыцельскую Сэмінарыю, ды кароткачасовыя дадатковыя вучыцельскія курсы з вучэньнем польскае мовы ў Глыбокім, Наваградку, Баранавічах, Нясьвіжы і Лунінцы.

4. Адпусьціць значнейшыя крэдыты на выдавецтва беларускіх школьных падручнікаў.

5. Субсыд‘яваць усе клясы ў гімназіях і іншых беларускіх сярэдніх школах, ды беларускія клясы ў гімназіях пераходнага выпу (расейска-беларускія, польска-беларускія).

6. Даць правы беларускім гімназіям аддаліць усе парашкоды, робленыя ім пры даставаньні концэсіяў.

7. Адчыніць беларускую катэдру ў Віленскім Унівэрсытэце.

8. Утварыць Аддзел беларускіх школ у Міністэрсьцьве Вер і Асьветы з адпаведнымі рэфэрантамі і інструктарамі на мясцох, выдаць адпаведныя інструкцыі мясцовым школьным уладам у сэнсе паддзяржаньня, а прынамсі толераваньня беларускіх школ.

**Цэнтральная Рада Таварыства Беларускае Школы.**



## З Казьмера Тэтмаера

(вольны пераклад з **польскага**).

Ты ня гінь, як зране ў бою
Сэрца гостры шрот;
Не ўцякай у ціш, к спакою,
Як гудзе грымот!
Хоць чуцьцё тваё скрышэе—
Ў думак край плыві!
Хоць у сэрцы памярцьвее—
Духам ажыві!
Як у чайцы бурны хвалі
Зробяць многа дзір,
То на дошках, што засталі
Паплыві праз вір.
Свайму сэрцу раду даўшы.
Станеш вышай мас;
Злую долю зваяваўшы,
На работу — час!
Не давайся—„лезь са шкуры“,
Як той ранен леў!
Сьмелы той, хто проці буры
Плысьці захацеў!

**Гальяш Ляўковіч.**

9—IX—1921
Варшава.



# З ПРЭСЫ.

### „БАНКРУЦТВА ППС“.

Пад гэткім загалоўкам „Вперед“ (№ 191)—львоўскі орган украінскае соцыяль-дэмократычнае партыі ў перадавым артыкуле робіць яскравы агляд палажэньня Польскае Соцыялістычнае Партыі. Падаем гэты артыкул у тлумачэньні цалком да ведама й нашых чытачоў, бяручы на ўвагу яго вялікую цікавасьць.

„Польская соцыялістычныя партыя, — піша «Вперед», — пераживае цяпер важкі крызыс. Выразьніца работніцкіх інтарэсаў, якая дасюль ужывала ў сваёй палітыцы як найрадыкальнейшыя лёзунгі й якая, як у сярэдзіне польскага грамадзянства, так і ў цэлым соцыялістычным Інтэрнацыянале грала відную ролю, пачынае цяпер штораз балей траціць сваё палітычнае значэньня ды коціцца ў прорву.

У соцыялістычным Інтэрнацыянале ППС зусім ізолявана. Камуністычны III Інтэрнацыянал замкнуў для яе свае вароты. Ня прыняў яе вядомаю франкфурцкаю пастановаю $2^1/_2$ Інтэрнацыянал. З II Інтэрнацыяналу казалі ёй у Лодзі выйсьці нацыяналістычныя яе элемэнты з Пазнаншчыны.

З соцыялістычнымі партыямі сваіх беспасярэдніх суседзяў, як Украінцаў, Беларусаў, Літоўцаў, Жыдоў, ня мае ППС. найменшага контакту, бо яе імпэрыялістычная, вельмі захопная палітыка мусіла давесьці да таго, што соцыялістычныя партыі гэтых народаў у ППС. зусім натуральна мусяць бачыць толькі гэрольдаў польскага імпэрыялізму, з якімі ім не па дарозе.

На найважнейшую знадворную сваю пролетарскую палітыку, інтэрнацыяналізм, цеснае супрацоўніцтва з пролетарскім рухам сваіх суседзяў, ППС. сама махнула рукою памятнай заяваю Бінішкевіча на апошнім конгрэсе ў Лодзі, што «мы можам абыйсьціся без Інтэрнацыяналу» (Robotnik № 201 з 29 ліпня 1921).

Ды найцяжэйшаю справаю для ППС. ёсьць поўнае яе банкруцтва сярод рабочых масаў самога польскага пролетарыяту.

Польскае работніцтва становіцца цяпер яўна проці ППС. і недвазначна адмовіла ёй у далейшай паслухнянасьці. Нагляцныя даказы гэтага—барацьба польскага работніцтва з пэпэсаўскімі павадырамі ў коопэратывах ды профэсыянальных арганізацыях, пра што гэтак вымоўна сьведчаць апошнія зьезды коопэратываў і профэсыянальных саюзаў. ППС. ратавалася тады аж арыштам рабочай опозыцыі.

Гэта самае паказалася й падчас апошніх дэмонстрацыяў рабочых проці скасаваньня 8 гадзіннага дня працы. У Варшаве і Львове польскія работнікі адкрыта выступілі проці дасюлешніх мытарстваў ППС. І тут і там мусілі пэпэсы заслоньвацца паліцыяй. У Варшаве арыштована аж 67 польскіх работнікаў. У Львове дайшло да праліцьця крыві. Па прыказу ды пад камандаю пэпэсаў палілася пад львоўскім тэатраw работніцкая кроў. А праліла яе не паліцыя, ня вшэхпольская баёўка, а авангард пасла Гаўснэра, Гэрштала й іншых.

Польскія работнікі, якіх знадворная ды ўнутраная палітыка ППС. завяла ў страшэнна бязвыхаднае палажэньне, схамянуліся й выступілі проці яе.

Не маглі згадзіцца з тым, каб іх коштам вялася імпэрыялістычная палітыка, цкаваліся імі пролетары суседзі, выкідаліся мільярды на бесьперастанныя войны ды збраеньні, нішчылася эканамічнае жыцьцё, абясцэньвалася валюта, тварылася дарагоўля і г. д.

Вось-жа пасяганьне польскае буржуазіі на 8 гадзінны дзень працы гэта толькі лёгічны рэзультат дасюлешняе лёкайскае палітыкі ППС. проці чужога ды польскага імпэрыялізму. Бо ці-ж за рады пэпэсаўскіх павадыроў „плаціць падаткі“, якія давалі яны польскім рабочым тады, калі тыя проста стагналі пад абухам страшэннай дарагоўлі, мелі польскія рабочыя яшчэ дзякаваць ППС.?

Гэтую падзяку дастала ППС. ад сваіх саюзьнікаў. Вось-жа „Kurjer Lwowski“ з прызнаньнем паднёс, што на нядзельнай дэмонстрацыі пасол Гаўснэр „лёгка“ атакаваў цяперашні буржуазны ўрад. І гэтае прызнаньне буржуазнае газэты аж надта ясна і шчыра характарызуе тактыку ППС.

А яшчэ лепей характарызуе гэту тактыку забастоўка чугуншчыкаў, забастоўка ды ўмовы ў нафтовай прамысловасьці, падзеі ў Горнічай Дуброве і г. д.

А ці-ж лепшаю службаю пролетарыяту ня ёсьць учасьце пэпэсаў у II аддзеле ДОГ., пра што агульна ведаюць польскія рабочыя і чаго ППС. ня можа адкінуць?

Польскія рабочыя зрываюць з ППС. Даказам гэтага і то аж надта вымоўным ёсьць выбары ў Касы Хворых, напр., у Варшаве, Горнічай Дуброве, Перамышлі і іншых мясцовасьцях.

ППС. сярод польскіх рабочых траціць штораз больш на значэньні ды ўплывах. Трымаецца яшчэ толькі там, дзе можа пры падмозе, ці то Бэльвэдэру, ці проста капіталістых, як і сымпатыкаў знайсьці людзей, што за паслугі, ці для „апровізацыі“ йдуць за ёю. Між рабочымі масамі яна ўжо дыскрэдытована.

Далейшае разьвіцьцё жыцьця ў польскай дзяржаве давядзе й мусіць давясьці ППС. да поўнага банкруцтва. Гэта лёгічны й нямінучы рэзультат яе шовіністычнае ды імпэрыялістычнае, на паслугах буржуазіі ведзенае, палітыкі“.



# Палітычная хроніка.

*Пятніца, 28 кастрычніка.*

— Польскі прэм‘ер Панікоўскі прачытаў урадовае паведамленьне аб Сьлезіі. Урад яшчэ раз заяўляе, што Польшча заўсёды застанецца на грунце вэрсальскага дагавору.

— Нямецкі канцлер Вірт заявіў

---

### Зьява 3.

**Жыд, Янка і Маланка.**

З хаты ўбягаюць Янка з Маланкай. Ён уцякае, яна гоніцца за ім з качаргой. Янка хаваецца за Жыда, Маланка хоча ўдарыць Янку, пры гэтым найбольш дастаецца Жыду.

**Маланка.** Ах ты гад гэтакі! Ты мяне—сваю жонку—пасьмеў дзягай сьцёбаць! А каб табе рука адсохла!.. Вось я табе за гэта! Вось!..

**Жыд.** Ай-вай, гэвалт! Уй! забілі мяне! уй! мяне—ўжо няма! уй, я ўжо памёр!..

**Янка** (засланяючыся Жыдам, як засланкай). Ну годзі ўжо, Маланейка! Ну, кінь ужо, бо суседзі зьбягуцца! Ну, кінь, больш ужо ня буду. (Уцякае за кулісу).

**Маланка** (за ім). Пачакай!! Я табе гэтага не дарую!..

### Зьява 4.

**Жыд** (адзін). Уй! а клёкцэнкэ!.. Уй, яны мяне зусім забілі, уй, я ўжо нябожчык, я ўжо зусім памёр!.. Яны з сабой пасварыліся, а мне зашто дасталася? Вось заўсёды гэтак на сьвеце бывае: адны з аднымі б‘юцца, а кажуць, што за ўсё вінаваты толькі жыд.

(пяе).

Кажуць ўсе, што наш брат
Ува ўсім ён вінават,
Дзе якая ёсьць бяда
Праз яго маўляў яна.

Рэвалюцыя ў сьвеце гдзесьці—
Вінаваты жыд.
Няма людзям чаго есьці—
Вінаваты жыд,
Зараз бяда
Усенькая
Заўсёды толькі на жыда,
Хаця ты чысты, як сьльза,
Гэта твая толькі віна,—
Толькі віна жыда!
Кажуць, што грошай многа маем,
Бедным людзём не спагадаем,
Што кожны з нас поўны кішэнь
Нясе да хаты кожны дзень,
Мігнуў дзе толькі жыда цень,
Абголены усяк, як пень.

Як я прыду ў хатку сваю,
Дзе Сура ўжо жджэ мяне,
Каб я яе і ўсіх малых
Дзяцей маіх,
Ах, хаця-б крыху нечымсь накарміў.

„Ах, татэлэ! што есьць дасі?
Што нам прынёс?“—пытаюцца
Дзеткі мае галодныя,
Бо без мяне
Нічога есьці ня было.
Аддаю тады я ў хаце
Усё, што зарабіў—
Вось усё маё багацьце,—
Каб сяк-так пражыў.
Трохі бульбы, крыху кашы,
Кусок селядца—
Вось усё багацьце наша,
Вось доля жыда.

### Зьява 5.

**Жыд, Янка і Маланка** (ўваходзяць абняўшыся).

**Жыд.** Вось яны ўжо пагадзіліся з сабой,—а хто мне заплаціць за мае сінякі? (ідзе ў глыб сцэны).

**Янка.** Ну, Маланка! годзі ўжо! Няхай ужо будзе згода! Ня будзем больш тужыць па раі ды праклінаць Адама й Эву, бо калі будзем жыць згодна, дык мы самі для сябе створым рай на зямлі!.. Ну, кажы: больш мяне качаргой біць ня будзеш?

**Маланка.** А ты мяне дзягай ня будзеш?

**Янка.** Ня буду! А ты паслухмянай будзеш?

**Маланка.** Калі ты захочаш таго, чаго й я хачу, дык буду.

**Янка.** Няхай нашы хаценьні заўсёды будуць аднолькавы. Вось тады ў нас будзе рай!

**Маланка.** Праўду кажаш: тады вось будзе рай:

**Янка** і **Маланка** (пяюць):

Больш тужыць ня трэ‘ за раем,—
На зямлі мы шчасьце маем.
Шчасьце само прыйдзе яно,
Калі ў згодзе жыць стрываем.

**Янка** (пяе):

У нязгодзе ўсьцяж мы жылі,
Аднаго адзін чубілі,
Забыўшыся мэту жыцьця,
Кабы ўсе людзі любілісь.

**Ўсе** (тры) **Жыд** пасярэдзіне.

Дык цяпер жыць згодна будзем,
Сваркі старыя забудзем.
Птушка да нас прыляціць ураз—
Лепшу долю дасьць ўсім людзям.

(У скоках сходзяць са сцэны).

Заслона.

**КАНЕЦ.**

журналістым, што галоўнаю задачаю новага кабінэту зьяўляюцца гаспадарчыя перагаворы з Польшчаю аб Сьлезіі, якія пачнуцца можа на гэтым тыдні. Канцлер выказаў надзею, што перагаворы з палякамі прыдуць да спагаднага рэзультату, бо абедзьве староны ўжо выказалі згоду прыняць бяз зьменаў жэнэўскую пастанову.

— У пасяджэньні нямецкага рэйхстагу абвешчаны склад новага кабінэту. Вірт — прэм'ерам і міністрам заграні́чных справаў.

— Заграні́чная прэса ад'значае, што жэнэўскае рашэньне зрабіла моцны ўплыў на ўдачу польскае загранічнае пазычкі, якая будзе рэалізована ў Бэльгіі.

— „Przegl. Wiecz", адтрымаў паведамленьне з Масквы, што сьледства выясьніла палітычны характар забойства Францкевіча.

— Тайная паліцыя ізноў раскрыла ў Варшаве камуністычны згавор. Арыштована 20 чалавек; захоплена шмат бомбаў.

— Коаліцыя патрэбавала ад вэнгерскага ўраду выдачы Кароля Габсбурга й яго жонкі Зіты. Газэты пішуць, што вэнгерскі ўрад устрымоўваецца споўніць гэта.

— У Парыж прыбыла італьянская дэлегацыя на вашынгтонскую конфэрэнцыю.

*Субота, 29 кастрычніка.*

— Паводлуґ баўгарскае газэты „Политика" ўрады Малое Антанты паслалі вэнгерскаму ўраду ультыматум, трэбуючы выдачы Кароля, разбраеньня вэнгерскае арміі й звароту расходаў па мобілізацыі. У выпадку неспаўненьня гэтага чэскія й югаславянскія войскі праз 48 гадзін перайдуць вэнгерскую граніцу.

— З Букарэшту паведамляюць, што гэн. Авэрэску робіць мобілізацыю пяхоты й коньніцы.

— За вотум веры Вірту падана ў рэйхстагу 230 галасоў проці 122.

— Забойства Францкевіча не разьясьняецца; забойца зноў зьмяніў паказаньні, запэўняючы, што забіў адзін, тады як ёсьць падазрэньне, што меў ён кампана.

— Начальнік Вэнгрыі Хорты заявіў, што констытуцыя забараняе выдачу Кароля.

— Нямеччына паведаміла раду паслоў, што ў хуткім часе назначыць дэлегата для эканамічных перагавораў з Польшчаю.

— У Стокгольме пачаліся перагаворы аб швэдзка-расейскай гандлёвай згодзе.

— Польскае міністэрства фінансаў проектуе ўвесьці 3-х мес. саджаньне ў вастрог за спэкуляцыю загранічнаю валютаю.

— Югаславянскія войскі пасоўваюцца ў глыб паўночнае Альбаніі.

— На рабочым мітынгу ў Пазнані прынята рэзалюцыя камуністых адмовіцца ад работы ў той тэрмін, які вызначаны меставою радаю.

— Забойцаў баўгарскага ваеннага міністра Дзімітрава злавіць не ўдалося. Забіты злучаў правыя групы.

— 17 кастрычніка Ленін сказаў на зьезьдзе палітпрасьветаў прамову аб „новай" эканамічнай палітыцы.

*Нядзеля, 30 кастрычніка.*

— У Чэхіі офіцыяльна абвешчана мобілізацыя. У суботу выдана распараджэньне аб ваенным палажэньні на тэрыторыі Славакіі і Прыкарпацкай Русі.

— Паведамляюць з Белграду, што Румынія мобілізавала 6 дывізіяў пяхоты і 2 дывізіі кавалерыі.

— Нямецкае насяленьне Чэхіі адносіцца воража да абвешчанай мобілізацыі і натоўпамі ўцякае ў Сьлезію й Баварыю. З гэтае прычыны ў Славакіі, дзе шмат немцаў, абвешчана ваеннае палажэньне.

— Вэнгерскае агенцтва паведамляе аб непраўдзівасьці белградзкае чуткі пра ультыматум Малое Антанты. Вэнгерскі ўрад ультыматуму не адтрымаў.

— Паводлуг апошніх вестак, ў Вэнгрыі спакойна. Войскі Мал. Антанты нідзе ня ступілі на вэнгерскую тэрыторыю, хаця стаяць зусім напагатове.

— Газэты пішуць, што вэнгерскі ўрад патрэбаваў ад Кароля адмовы ад пасаду, згодна з трэбаваньнем дзяржаваў коаліцыі.

Нямецкім урадам для перагавораў з палякамі назначаны быўшы міністар справядлівасьці Шыфэр.

— Японія згаджаецца паменшыць будаваньне караблёў.

— Забастоўка гарадзкіх рабочых у Пазнані цягнецца далей.

— 27 кастрычніка ў польскае міністэрства гандлю й прамысловасьці зьявіўся прадстаўнік Украіны, які заявіў аб жаданьні зрабіць гандлёвы дагавор з Польшчаю.

— Правыя нямецкія газэты нападаюць на канцлера й яго падатлівую палітыку ў адносінах да Францыі.

— „Temps" піша: ў конфэрэнцыі аб раззбраеньні будуць: Амэрыка, Англія, Францыя, Італія і Японія.

— У апошнім пасяджэньні камісіі Польск. Сойму па загранічных справах міністру быў зроблены запрос датычна выпаўненьня рыскага дагавору. Міністар адкажа ў суботу.

— Красін прыслаў Кэрзону ноту протэсту з прычыны адсылкі 600 быўшых жаўнераў — дэнікінцаў у Уладывасток і трэбуе, каб з гэтых жаўнераў было ўзята слова, што яны ня будуць выступаць проці бальшавікоў.

*Панядзелак, 31 кастрычніка.*

— Як паведамляюць з Бэрліну, нямецкія упаважненыя для перагавораў з Польшчаю д-р Шыфэр і Левальд выяжджаюць у Сьлезію ў пачатку тыдня. Перагаворы будуць весьціся ў Ополе, ці ў Катовіцах пад старшынствам проф. Годака, чэскага экспэрта Лігі Народаў.

— 28 кастрычніка ў Прагу Чэскую выехалі выселеныя з Польшчы расейцы: Віктар Савінков, Дэрэнталь, Рудін, Мягков. Барыс Савінков застаецца ў Варшаве яшчэ пару дзён.

— Уся сьлезкая нямецкая прэса трэбуе ад нямецкага ўраду хутчэй назначыць дэлегатаў для перагавораў з Польшчаю.

— У Будапэшце пануе злосьць з прычыны пазыцыі Югаславіі, трэбаваньні якой прызнаюцца бязгрунтоўнымі. Ультыматум Югаславіі прызнаецца скіраваным проці сувэрэннасьці Вэнгрыі.

— Лацьвійскі прэм'ер Мэеровіч у гутарцы з корэсп. „Русспресс" заявіў: нашыя адносіны з Эстоніяй, разьвіваючыся, прымаюць форму конкрэтных зьбліжэньняў. З Літвою нас злучае ўзаемнае братэрства і глыбокая сымпатыя, таксама як і супольнасьць інтарэсаў. З Польшчаю маем шмат агульнага, таксама і з сав. Расеяй жадаем жыць у міры. Ні з сав. Расеяй, ні з іншай Расеяй ваяваць ня хочам.

— Бэрлінскія друкаршчыкі адтрымалі дадаткі. Забастоўка скончана.

— Ангельскія фінансістыя запрапанавалі Румыніі кароткасрочную пазычку на 3 гады ў разьмеры 5.000.000 фунтаў штэрлінгаў.

*Аўторак, 1 лістапада.*

— Польск. Тэлегр. Аг. паведамляе з Лёндану, што Рада Паслоў выбрала выспу Мадэйру, як месца пабыту Кароля Габсбурга.

# Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.

**(Рэфэрат, чытаны ў Лодзі для афіцэраў Беларускіх Вайсковых Аддзелаў і служачых Беларускай Вайсковай Камісіі 8 лістапада 1920 г.).**

(Гл. № 18).

Сваім выхадам з Рады Рэспублікі прадстаўнікі земстваў і гарадоў моцна памаглі Народнаму Прадстаўніцтву ўвайсьці ў Раду і як-бы заняць пустое, пакіненае імі, месца. Колькасьцю галасоў сваіх Прадстаўніцтва не магло граць першую ролю ў Радзе, аднак аслабленую земцамі пазыцыю социялістых-беларусаў з Рады паступова заціскала Прадстаўніцтва і выявілася, праз нейкі час, што барацьба Скірмунта з Варонкаю за ўладу рана, ці позна выплыве наверх.

З социялістычнае Грамады адкалолася група Грыба і Бадуновай, утварыўшы Беларускую Партыю Соцыялістых-Рэвалюцыянэраў, якая спачатку ў вачох рэшты радных зьяўлялася нічым іншым, як расейскім насеньнем, перанесеным на беларускі грунт. Тактыка гэтай партыі ў Радзе можа быць названа ня йначай, як „умываньне рук". Лідэры эс-эраў рабілі громкія трыбунныя выступленьні, ўхіляючыся ад практычнае адпавядальнасьці за беларускую палітыку.

Неэс-эраўскія элемэнты Соцыялістычнай Грамады пачалі шчапацца ў сваю чаргу; Варонка й Езавітаў заснавалі беларускую партыю соцыялістых-фэдэралістых, але гэта пасьля таго, як спатычка Варонкі з Скірмунтам з-за прэм'ерства адбылася.

„Ад чацьвяргу да пятніцы" як кажа прыказка, Скірмунту ўсё-ж такі ўдалося пабыць старшынёю Народнага Сэкрэтарыяту, але, ня гледзячы на пастанову аб гэтым большасьці Рады, Варонка справаў Сэкрэтарыяту скірмунтаўскаму кабінэту не схацеў перадаць і з гэтага прыкрага палажэньня „дваяўраднасьці" вывела справу новая большасьць Рады, пастанавіўшая стварыць „парлямэнцкі" Сэкрэтарыят спосабам дэлегаваньня ў склад яго прадстаўніка ад кожнае раднае групы.

Эс-эры ўхіліліся й на гэты раз ад дэлегаваньня ў склад ураду свайго прадстаўніка, хаця й не саўсім. Яны далі маўклівую згоду на кандыдатуру Вярнікоўскага ў Народныя Сэкрэтары. Старшынёю новага складу Сэкрэтарыяту быў выбраны Серада, загадчыкам справаў застаўся Заяц. Агулам бяручы, гэткая комбінацыя была зроблена так сабе, абы запоўніць пустату і ніякай працаздольнасьці ад новага Сэкрэтарыяту спадзявацца нельга было.

Кватэра Рады й Сэкрэтарыяту была перанесена ў быўшы Юбілейны Дом (на Захараўскай вуліцы) й Сэкрэтарыят пад старшынством Серады некалькі месяцаў спакойна сядзеў у сваёй новай рэзыдэнцыі. Праўда, пры гэтым Сэкрэтарыяце былі спробы завязаць перагаворы з украінскім урадам (тады гэтмана Скарападзкага), адбылося ў Кіеве некалькі пасяджэньняў беларускай дэлегацыі з украінцамі, былі перагаворы з бальшавіцкім-прадстаўніком Ракоўскім там-жа ў Кіеве, які згаджаўся ад імя бальшавікоў прызнаць Беларусь незалежнаю, але толькі з тым варункам, калі ў ёй будзе савецкая ўлада.

Пры Сэкрэтарыяце Серады быў прыняты ў кастрычніку 1918 г. Радаю закон аб папаўненьні Рады новымі элемэнтамі, у значнай меры буржуазнымі і аб рэарганізацыі Народнага Сэкрэтарыяту ў Раду Народных Міністраў. У Раду ўвайшлі прадстаўнікі провінцыяльных радаў, Сьв.-Мікалаеўскага брацтва, Хрысьціянска-Дэмократычнае беларускае Злучнасьці, Польскае Рады Меншчыны („Rada Polska Ziemi Mińskiej"), расейскае партыі констытуцыйных дэмократаў (кадэты), менскага, назначанага немцамі, магістрату, Саюзу Земляўласьнікаў і інш.

Раду Міністраў даручана было сформаваць Антону Луцкевічу, які незабаўна яе стварыў, прачытаўшы кабінэтную праграму ў адным з пасяджэньняў. Помніцца, што ў дэкларацыі прэм'ера першае Рады Міністраў Луцкевіча было ясна зазначана, што беларускі ўрад не адкідае прынцыпу фэдэраваньня Беларусі з яе суседзямі і ў гэтым сэнсе будзе вясьці перагаворы з суседнімі народамі ў залежнасьці ад дэмократычнасьці іх дзяржаўнага ладу. Аканчальнае рашэньне аб фэдэрацыі з кім-нібудзь пакідалася Беларускаму Устаноўчаму Сойму.

Уся гэта работа тварылася тады, калі Нямеччына пачала цярпець адно за адным пабоішчы на яе заходнім франка-бэльгійскім фронце.

Як рэзультат ваенных няўдачаў, у Нямеччыне адбылася ў лістападзе рэвалюцыя і войскі быўшага Кайзэра, окупаваўшыя Беларусь, а таксама й Украіну, парабіўшы салдацкія рады, пачалі пасьпешна адходзіць на бацькаўшчыну. Сьледам за імі паўзла ў бок Менску хмара бальшавіцкае чырвонае арміі. Нямецкі гэнэрал Фалькэнгайн адносіўся нявыразна да справы тварэньнл беларускага войска гэнэралам Кандратовічам, хаця даў прапускі дэлегатам Рады Рэспублікі выехаць заграніцу, каб протэставаць там проці бальшавіцкае навалы.

Адозву да дэмократыяў усяго сьвету ў гэтым сэнсе Рада Рэспублікі прыняла аднагалосна, ня вылучаючы й Эс-Эраў.

Проці навалы бальшавікоў на Менск—зрабіць нічога нельга было. Чырвоная армія, як саранча паўзла на ўсе парожнія пасьля немцаў месцы, якія, адходзячы, трымаліся ўсё-ж такі строгіх ваенных плянаў.

Радзе Міністраў нічога не заставалася, як выехаць за межы бальшавіцкага дасяганьня. На бліжэйшыя часы пастаноўлена было пераехаць у Вільню.

Выяжджаючы Рада Народных Міністраў выпусьціла гэткую абвестку:

**Ад Рады Народных Міністраў.**

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, атрымаўшая свае поўнамоцтвы ад Беларускага Народу на Усебеларускім З'езьдзі, ў граматах з 9 і 25 марца 1918 году апавесьціла, што ўся ўласьць на Беларускай зямлі пераходзіць у рукі народу. Зямля, лясы і прыроднае багацце краю былі аб'яўлены народным меннем.

У сьлед за гэтым Рада прыступіла да будавання незалежнай Беларускай Дзяржавы на асновах, устаноўленых Устаўной Граматай з 25 марца г. г.

Нямецкая окупацыя прыпыніла гэту работу і зрабіла немагчымай передачу ўласьці ў рукі Народу і разьвязку зямельнаго пытання на справядлівых асновах.

Цяпер, калі Народ Нямецкі завёў новы лад на сваёй зямлі, і окупацыйныя войскі пакідаюць наш край,—настаў мамэнт, каб Народ Беларускі, соткі гадоў пакутаваўшы ў чужацкай няволі, стаўся поўным гаспадаром на сваёй вольнай і незалежнай зямлі.

Беларускі Урад, зложаны з прадстаўнікоў усіх беларускіх соцыялістычных партый і упаўнамочаны Радай Беларускай Народнай Рэспублікі, кліча Народ Беларускі выкарыстаць гэты асаблівы мамэнт—мамэнт зьніштажэння старога ладу вольнымі народамі.

Няхай усе грамадзяне Беларусі гуртуюцца навакол Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і Беларускага Ураду і твораць на усёй Беларусі свае валасныя, павятовыя і мястовыя Беларускія Рады, каб ар-

— Прадстаўнікі дзяржаваў па. далі вэнгерскаму міністру заграніч-спраў Банфі ноту, трэбуючы выдачы быўш. караля камандзеру ангельскае флёты, які будзе трымаць яго пад арыштам датуль, пакуль саюзьнікі ня вызначаць месца яго пабыту.

— Чэхаславацкі прэм‘ер Бэнэш меў нараду з прадстаўнікамі дзяржаваў. Ходзяць чуткі аб кандыдатуры князя Аоста на вэнгерскі пасад.

— Газэты паведамляюць, што Рада Паслоў назначыла срок выпаўненьня жэнэўскай пастановы аб Верхн. Сьлезіі—31 сьнежня.

— Чычэрын выслаў ноту ангельскаму гандлёваму агенту ў Маскве, протэстуючы проці паддзержкі Англіяй контр-рэвалюцыйнага руху на Далёк. Усходзе. Ад Румыніі Чычэрын трэбуе выдачы Махно.

— Ёсьць газэтныя весткі, што ангельскі парлямэнт пастанавіў адкрыць Польшчы крэдыт у 2 мільёны фунтаў штэрлінгаў; гэткі самы крэдыт адкрыты й Аўстрыі.

— Італьянская рада жалезнадарожных рабочых пастанавіла лічыць немагчымым прылучэньне да III Інтэрнацыяналу.

— Польскі пасол у Маскве Філіповіч ў сераду пакідае Расею, бо ён адклікаmake польскім урадам.

— У Мюнхэне (Баварыя) зроблены напад на пасла рэйхстагу с.-д. Ауэра. Той, хто страляў, не патрапіў; яму ўдалося зьнікнуць.

— Гэн. Нолет патрэбаваў зьнішчыць ў нямецкіх гарадох Кіле, Эрфурце, Шпандау заводы, што вырабляюць вайсковыя прылады, падводныя чайкі і зброю.

— Паводлуг вестак з Жэнэвы, міжнародная конфэрэнцыя працы пастанавіла не разважаць над пытаньнем аб 8 гадзін. рабочым дні ў сельскай гаспадарцы.

— Польскі ўрад рахуе на тое, што бальшавікі заплацяць за забойства Францкевіча яго дружыне.

— Разам з Брыянам на вашынгтонскую конфэрэнцыю выехаў і маршалак Фош; ём быў прыняты ўрачыста прэзыдэнтам Гардынгам. Фош заяўляўся й да Вільсона, але быўшы прэзыдэнт ня прыняў яго.

*Серада, 2-га лістапада.*

— Аг. „Е. Е.“ паведамляе, што ў варшаўскіх палітычных сфэрах пануе перакананьне, быццам гэн. Жэлігоўскі пакіне Вільню перад скліканьнем у ём Сойму.

— „Rzeczposp.“ піша, што ў эканамічных польска-нямецкіх перагаворах перш за ўсё будзе разглядацца валютнае пытаньне. Польскі ўрад трымаецца таго пагляду, што абавязкам Нямеччыны будзе дастаўка валюты для усяго сьлезкага раёну.

— Польская камісія па прыняткy верхнясьлезкіх абшараў пачала працу пад старшынствам Альшэўскага.

— Пасол Польшчы ў Маскве вярнуўся ў Варшаву.

— Кароль Габсбург заявіў вэнгерскаму ўраду, што ён лічыць за лепшае быць павешаным, ніж адмовіцца ад трону.

— У зьвязку з пярэрваю ў Варшаве румынска-савецкіх перагавораў, часьць румынскай дэлегацыі ўжо выехала ў Букарэшт.

— Вярхоўная Рада саюзу польскіх земляўласьнікаў заявіла, што яна цалком падтрымлівае праграму міністра Міхальскага.

— Урады саюзных дзяржаваў прымаюць меры для пасяленьня Караля Габсбурга ў Румыніі ці ў Партугаліі. Апошняя, здаецца, адмовілася прыняць яго. Проектуецца інтэрнаваць Караля ў румынскім горадзе Галацы.

— Польскага міністра Страсбургэра адведаў аўстрыйскі упаважнены з мэтаю пачаць перагаворы аб заключэньні аўстра-польскага гандлёвага дагавору.

— 29 кастрычніка ў савецкай прэсе зьявілася паведамленьне ўраду аб прызнаньні перадваенных даўгоў. Бальшавікі трэбуюць офіцыяльнага прызнаньня савецкага ўраду зах.-эўропэйскімі дзяржавамі, прызнаньня незачэпнасьці граніц і дзяржаўнай сувэрэннасьці Расеі. Дэкларацыя выказваецца таксама за скліканьне міжнароднай конфэрэнцыі дзеля разгляду пратэнсіяў розных дзяржаваў да расейскага ўраду й наадварот. Савецкі ўрад выказваецца за аднаўленьне вольнага гандлю і прыватнае ўласнасьці.

*Чацьвер, 3 лістапада.*

— Маючы па ўвазе барацьбу з дарагоўляй польскі прэм‘ер Панікоўскі запрасіў да сябе 20 прадстаўнікоў ад купцоў, падкрэсьліўшы ненормальнасьць таго, што, ня гледзячы на падвышэньне курсу польскай маркі цэны на прадукты ўсё-ж такі падрастаюць. Пасьля прэм‘ера вялікую прамову сказаў міністар Страсбургэр. Ад імя купцоў п. Гэрсэ заявіў, што яны ахвотна пайдуць насустрэчу жаданьням ураду.

— Польскі ўрад паслаў савецкаму ўраду ноту, протэстуючы проці абвінавачаньняў Польшчы ў дачыненьні яе да паўстаньня ў Камянец-Падольску і на р. Збручы.

— „Polska Zbrojna“ паведамляе аб назначэньні гэн. Галера гэнэральным інспэктарам польскай арміі.

— Нямецкі міністар Сімонс заявіў, што Англія падніме пытаньне аб рэвізіі нямецкіх забавязаньняў ў зьвязку з рашэньнем аб В. Сьлезіі.

— „Temps“ зьвяртае ўвагу на замер Нямеччыны выкарыстаць арт. 234 вэрсальскага дагавору дзеля адтрыманьня льготаў па выплаце контрыбуцыі.

— Газэты паведамляюць, што Кароль Габсбург з жонкай Зітаю будуць перавезены з Ціханы ў Дунафэльдвар, дзе іх аддадуць у распараджэньне ангельскае канонеркі.

— З прычыны адмовы Караля зрачыся трону, дзяржавы паведамілі Малую Антанту, што яны ня будуць працівіцца яе рыхтаваньням, калі адрачэньне будзе адкладзена.

— „Temps“ падае офіцыяльную дэклярацыю і праграму вашынгтонскай конфэрэнцыі аб ненарушальнасьці цэласьці Усх. Сыбіру і палітыцы адчыненых дзьвярэй у Верхн. Сьлезіі.

— „Polpress“ паведамляе з пэўных крыніцаў, што віцэ-міністар Польшчы па заграні чных справах Домбскі падасцца ў адстаўку.

— Ангельскае міністэрства заграні чных справаў адтрымала ноту Чычэрына аб прызнаньні расейскіх перадваенных даўгоў.

— Францыя таксама адтрымала ноту Чачэрына аб прызнаньні даўгоў.

— Вашынгтонская конфэрэнцыя пачнецца 12-га лістапада і працягнецца дзён 10.

— У Парыжы пачаўся зьезд французскіх соцыялістых. Разглядалася пытаньне аб будучай орыентацыі партыі. Нямецкі дэлегат Ледэбур выказаўся проці дыктатуры накшталт маскоўскай, спадзяючыся, што бальшавікі зразумеюць свае абмылкі й далучацца да II Інтэрнацыяналу.

Дэлегат Грунбах прачытаў прамовы расейскіх бальшавікоў, аб іх банкруцтве.

— „Daily Chronicle“ паведамляе, аб заяве Лёйд-Джорджа ў ангельскім парлямэнце, што варункам англа-ірляндзкае згоды зьяўляецца прызнаньне сувэрэннасьці караля.

— Атаман украінскіх паўстанцаў Забалотны прарваўся праз акружыўшыя яго чырвоныя войскі і ўцёк у Румынію.

---

ганізованы народ запраўды мог узяць у свае рукі уласьць у сваёй старонцы.

Цьвёрда стоячы на грунце здабыткаў рэвалюцыі, Беларускі Урад усімі сіламі будзе паддзержываць на нашай зямлі лад, кіруючыся да таго, каб згодна з законамі, выдаванымі правадаўчымі установамі Беларускай Народнай Рэспублікі, глаўнае багацце народу—лясныя абшары—перайшлі на уласнасьць краю, каб тыя, хто сваей працай на раллі корміць увесь край, былі справядліва надзелены зямлёй, каб узмацавалася наша незалежная Беларуская Рэспубліка, і каб чужыя нам людзі ізноў не запанавалі над намі.

Беларускі Урад будзе рупіцца перш за усё аб тое, каб чым хутчэй сабраўся Устаноўчы Сойм Беларусі і каб чым хутчэй наш народ сам завёў на сваёй зямлі праўдзівую волю для усіх яе грамадзян.

Рада Народных Міністраў
Беларускай Народнай Рэспублікі.

Менск, 29 лістапада 1918 г.

Паход бальшавікоў сьледам за немцамі на Захад змусіў Заходнюю Эўропу крыху стрывожыцца, але там было вельмі шмат справаў па ліквідацыі ўсясьветнае імпэрыялістычнае вайны й наагул мала каго мог цікавіць лёс няшчаснае Беларусі, якую зьмянялі адна за аднэю розныя окупацыі.

Апрача дэлегацыяў у рэвалюцыйны Бэрлін і Бэрн высланы былі Радаю Рэспублікі дэлегацыі ў Польшчу (Варшава) й да Літоўскае Тарыбы (Вільня). Але ведама, што бліжэйшыя, паўстаўшыя да сувэрэннага жыцьця, суседзі Беларусі мелі аж надта досіць сваіх уласных справаў, пасьпешна фармуючыся ў дзяржаўныя арганізмы.

Бэрлін кіпеў рэвалюцыяй дый дарэвалюцыйны ён адказаваў на ноты Сэкрэтарыяту Варонкі, што Нямеччына ня можа падтрымаваць ідэі беларускай дзяржаўнасьці, бо ня мае права ўмешавацца „ў ва ўнутраныя расейскія справы“ і гэтым нарушаць берасьцейскі дагавор

Бэрн, як відаць. рыхтаваўся да Вэрсальскай конфэрэнцыі і Беларусь была на волі свайго ўласнага гаротнага лёсу.

Рада Рэспублікі вынесла пастанову аб пярэрве свае сэсіі і паадзінокія сябры яе, хто эміграваў, а хто застаўся на месцы ў Менску, зышлі з палітычнае арэны пад окупацыяй бальшавікоў.

Рада Народных Міністраў не пакідала працы. З Вільні, пры яе захваце бальшавікамі, ўрад беларускі пераехаў у Горадзен, адкуль пасьля перанёс сваю рэзыдэнцыю ў сталіцу гасьціннай Чэхаславакіі Прагу.

Рада Рэспублікі выдала гэткі, апошні перад бальшавіцкай окупацыяй акт, які зьместам сваім хутчэй падобны да адозвы, чымся да свае назвы:

### ГРАМАТА

**Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.**

**Народзе Беларускі і ўсе народы Беларускай зямлі!**

Слухай голасу тваіх прадстаўнікоў, што працуюць тваім імянем і дзеля тваіго шчасьця.

Шмат сотняў гадоў панавалі на Беларусі чужынцы, а працоўны народ наш гібеў у зьдзеку, няволі і цемнаце. Безканечныя войны палівалі нашую старонку рэкамі крыві, а звадкі між народамі і верамі ў самой Беларусі атручвалі дух народны, зьнішчалі ўсе здабыткі культуры і не давалі тварыцца новым. Аж зразумелі ўрэшце лепшыя сыны Беларусі, што прычына ўсіх няшчасьцяў—гэта палітычны заняпад народу Беларускаго, яго няволя і пакора, і прагаласілі яны на усю Беларусь, што павінен устаць Беларускі народ, скінуць путы няволі і з парабка гаспадаром зрабіцца на сваёй зямлі.

Разышоўся голас гэты па Беларусі і абудзіўся Народ. І на вялікі ўсенародны сход, які адбыўся у сьнежні месяцы 1917 г. у Менску і называецца Усебеларускім Зьездам, прыслаў Народ Беларускі каля дзьвёх тысяч чалавек сваіх лепшых прадстаўнікоў з усіх частак, усіх валасьцей, усіх закуткаў Беларускай Зямлі. Не збаяўшыся цёмных сілаў, што тады панавалі на Беларусі, перад наведзенымі кулямётамі і навіслымі штыкамі сказаў Зьезд волю Народу Беларускаго аб яго будучыне. Народ Беларускі выракаецца сваіх няпрошаных апякуноў. Ён устанаўляе на сваёй зямлі Дэмократычную Рэспубліку і хоча прамаўляць на сусьветным міравым конгрэсе вуснамі сваіх уласных прадстаўнікоў. Ён творыць войско для абароны свайго права і даручае ўладу у Беларусі выбранай на зьездзе Радзе і яе Спаўняючаму Камітэту.

Паны камісары разагналі Усебеларускі Зьезд і шукалі способу зьнішчыць Раду Зьезду. Ды не ўдалося гэта ім. Пасьля іхняго ўцёку з Менску ўлада перайшла да Спаўняючаго Камітэту Рады Зьезду і той стварыў тады першае Міністэрство Беларускае—Народны Сэкрэтарыят, а так сама пачаў тварыць беларускае Народнае войско.

Пасьля вякоў няволі ізноў запанаваў на сваёй зямлі Беларускі Народ. Але нядоўгае было гэтае панаваньне. Цераз тры дні прыйшлі ў Менск войскі нямецкаго імпэратара. Яны гвалтам адабралі ад Народнаго Сэкрэтарыяту ўладу і спынілі яго работу. Патаемна мусіў пасьля таго зьбірацца Беларускі Урад, хаваючыся ад нямецкіх жандармаў, але ні на мінуту не забываўся ён аб вялікіх абавязках, на яго Народам узложаных. 9 сакавіка 1918 г. Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду выдаў Устаўную Грамату, якая тлумачыла тыя правы працоўнаго народу, што выдаў Усебеларускі Зьезд. А 25 сакавіка ён, злучыўшыся з прадстаўнікамі Земстваў і Гарадоў і утварыушы разам Раду Беларускай Народнай Рэспублікі, абвесьціў Беларусь незалежнай і вольнай Дзяржаваю, каб не дазволіць далей чужынцом камандаваць Беларускім Народам, разрываць яго на часткі, ды гандляваць Беларусьсю на сусьветным рынку. Так былі скінуты з Беларускаго Народу апошнія путы няволі, якія ціснулі яго праз вякі.

Ішоў час, але не зьмяншаўся уціск нямецкаго імпэратарскаго Ураду. З усяго краю надыходзілі да Рады Беларускай Народнай Рэспублікі скаргі і протэсты проці гэтаго ўціску, а Рада нічога не магла зрабіць, бо яшчэ не пасьпеў сабраць Беларускі Народ сілы свае і моцным плячом падперці сваю Раду. Ня маючы сілы, Рада Рэспублікі надзеялася хоць сваёю пакораю зьмягчыць цяжкае палажэньне Беларусі. Яна некалькі разоў зьвярталася да нямецкаго ўраду, просячы, каб той прызнаў Беларускі Народ вольным і незалежным і даў яму можнасьць самому упраўляць сваею зямлёю. Нямецкі ўрад кожны раз адказываў адмоўна.

Тым часам у Нямеччыне сталася рэвалюцыя і нямецкае войско ня хоча больш аставацца ў нашай зямлі, з якой гэтак несправядліва зрабіў яго даўнейшы імпэратарскі ўрад. Беларусь ізноў астаецца вольнаю і яе ўрад мае абвесьціць выбары да Беларускаго Устаноучага Сойму, які сваім голасам умацуе правы народу і установіць дзяржаўны лад Беларусі. Але хоць шмат зьмяніла рэвалюцыя, ды не зьмяніла яна нешчасьлівай долі Беларускай. Ня хочуць панаехаўшыя у наш край чужынцы выпускаць са сваіх рук лейцаў, у якіх трымалі дагэтуль Беларускі Народ. У Менску, у Кіеві разам з нашымі адступнікамі яны твораць фальшывыя ўрады і крычаць аб сваім праве на панаваньне над Беларускім Народам, аб тым, што Беларусь ніяк ня можа быць вольнай, а павінна канешне ісьці зноў у ярмо. Пры гэтым яны не шкадуюць выдумак, каб ачарніць Раду Рэспублікі і словамі сваімі апаганіць яе працу. Уся мэта гэтых людзей

# Жыцьцё провінцыі.

### БАРАНАВІЧЫ.

Нарэшце Баранавічы дачакаліся прыезду віленскіх беларускіх артыстаў. Як паведамляюць — гэта частка віленскага Беларускага Музыкальна-Драматычнага гуртка.

У нядзелю ў кіно-тэатры па Паштовай 8, быў пастаўлены спэктакль. Ішла п'еса „Птушка шчасьця“.

Пасьля п'есы п. Ніжынская танцавала „Сьмерць лебедзя“ і некалькі іншых танцаў на bis. Овацыям ня было канца.

Трэба дадаць, што заля была паўнюсенька набіта народам, які прыхільна спаткаў сваіх родных артыстаў, іграўшых на роднай, так мілай і дарагой сэрцу беларускай мове.

Наагул спэктакль у нас прайшоў так добра, што ўспаміны аб ім застануцца на доўгі час.

Тыя самыя артысты назаўтра ў панядзелак ігралі ў „цёці Імці“ (Амэрыканскі хрысьціянскі саюз маладых людзей), куды іх вельмі ласкава запрасілі амэрыканцы. Загадзя да ігры пацягнуўся доўгі чарод бежанцаў і іншых людзей, што насяляюць баранавіцкія баракі.

Заля, якая звычайна ўмяшчае да двох тысячаў людзей, не магла ўмясьціць тых, што жадалі глядзе́ць ігру.

Дайшло да таго, што ня было дзе пасадзіць музыкаў, ледзь усунулі іх каля сцэны ў куточку.

Самі гаспадары-амэрыканцы сядзелі за кулісамі.

Спэктакль у „Імці“ меў вялікую ўдачу. Прыхільнасьць пэрсоналу „Імці“ была над'звычай добрая.

Відаць, што такая ўдача заставіла артыстаў даць трэці спэктакль у кінотэатры ў сераду. Нажаль дождж, які ліў, як з вядра, трохі псаваў настрой. Пастаўлены былі дзьве аднаактоўкі „На адным крэсьле“ і „Я памёр“, пасьля чаго балерына Ніжынская аттанцавала „Танец сьмерці“, „Польку“ і „Сьмерць Лебедзя“.

Вечар прайшоў, як і трэ' было чакаць—добра.

Наагул нашы жаданьні, каб Віленскі Белар. Музыкальна-Драматычны гурток як мага часьцей пасылаў артыстаў на провінцыю.

**Лі.**

---

## Не пазваляюць вучыцца пабеларуску.

**Вёска КАНЮХІ, Палачанскай вол.**

Летась увосень, у нашай вёсцы адчынілі беларускую пачатковую школу. Сяляне гэтаму былі вельмі рады і цешыліся, што школа будзе істнаваць і заўсёды, але з вялікае пацехі, прышлося цяпер плакаць. Бо польскі інспэктар Валожынскага павету прыслаў гміне паперу, каб пабеларуску ў школах ня вучылі, а толькі папольску і парасейску. Сяляне нашыя пажадалі, адчыніць хоць прыватную белар. школу і пашлі да войта прасіць пазваленьня склікаць зборку, каб напісаць пратакол, які хацелі паслаць у Варшаву, Міністэрству Прасьветы, і копію інспэктару, каб пазволілі вучыць дзяцей пабеларуску. Але войт гэтае зборкі не пазволіў, сказаў, што пабеларуску вучыцца нельга.

Пан войт, сам беларус, тутэйшы жыхар, гавора пабеларуску і троху разумее папольску, але вядзе палітыку эндэцкую.

**Башчонак.**

# Беларуская хроніка.

**Перагаворы з P. P. S. L. i B.**

Як мы выпадкова даведаліся адна з беларускіх соцыялістычных групаў мела перагаворы з тутэйшымі прадстаўнікамі «Polskiej Partji Socjalistycznej Litwy i Białej Rusi» у зьвязку з чуткамі аб скліканьні ў Вільні Сойму.

Перагаворы дасюль ні да чаго не дайшлі.

**Прапазыцыя Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту.**

Да Сэкрэтара Белар. Нац. Камітэту грамадзяніна Кахановіча зьвярнуўся прэзэс Галоўнай Камісіі па выбарах у віленскі Сойм граф Грабоўскі з прапазыцыяй вызначыць беларускіх прадстаўнікоў у выбарчыя камісіі.

Грам. Кахановіч нічога ня мог адказаць на прапазыцыю, апрача таго, што Нацыянальны Камітэт дасюль яшчэ не займаўся гэтай справаю.

**Ў Музыкальна-Драматычным Гуртку.**

Заўтра ў суботу, 5 гэтага лістапада, ў памяшканьні Беларускага Муз.-Драматычнага Гуртка будзе пастаўлена опэрэтка „Птушка Шчасьця“ пры учасьці вядомае балерыны Петраградзкіх дзяржаўных тэатраў Магрэты Ніжынскай. Пачатак роўна а 8 гадз. ўвечары. Пасьля спэктаклю танцы да 4 гадз. раніцы.

# ТУТЭЙШАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

### СПРАСТАВАНЬНЕ.

З прычыны зьмешчанае ў № 16 „Бел. Звону“ за 14. X. 1921 заметкі аб адмове Дэпартамэнтам Ўнутраных Справаў зарээстраваць віленскую коопэратыву „Lajme“, перасылае нам Прэсбюро Ч. Ў. К. гэткае спраставаньне:

„Няпраўда быццам Дэпартамэнт Унутраных Справаў адмовіў зарээстраваць коопэратыву «Lajme», таму што статуты гэтай коопэратывы, прыложаныя да прашэньня, напісаны былі на літоўскай мове. А, замест гэтага, праўда, што Дэпартамэнт адмовіў зарээстраваць таму, што коопэратыва «Lajme» раней была на аснове распараджэньня Дырэктара Дэпартамэнту Ўнутраных Справаў за 24 жніўня 1921 г. № 319, як істнаваўшая нелегальна, закрыта, а сябры яе пацягнены да судовай адпавядальнасьці на моцы 124 арт. Карн. Кодэксу“.

---

**Аб ушанаваньні 60-х угодак сьмерці Ўладыслава Сыракомлі.**

## Адкрыты ліст.

У 1884 годзе варшаўская паліцыя забараніла Адаму Вісьліцкаму зьбіраць складкі ў „Przeglądzie Tygodniowym“ на памятнік Сыракомлі. У 1906 годзе скончыліся нічым стараньні рэдактара «Kurjera Litewskiego» дабыць у губэрнатара графа Тацішчэва дазвол на ўвекавечаньне быцьця ў Вільні і сьмерці аднаго з найсардэчнейшых лірыкаў ня толькі нашага краю, ня толькі ў польскай літэратуры, але й на сусьветным Парнасе.

Так 10 год таму ў найменшай меры не магло быць яшчэ й гутаркі аб грамадзкім тут у нас, ушанаваньні тварца „Dęboroga“, „Kęsa Chleba“ і „Margera“ з прычыны 50-х угодак яго сьмерці, прыйшоўшай 15 верасьня 1862 гаду ў доме на той час Бабятынскага на вуліцы, якая цяпер завецца Каралеўскай.

Сеньня—стаяць перад намі адкрыта: усякі на тое пачатак і ўсякія способы для яго спаўненьня.

Сьмела бярэм пачатак у свае рукі, бо маем пэўнасьць, што трапляем у думку грамады. Ёсьць у садзе, які завецца «Цялятнікам», у найзручнейшым харошым месцы, тут-жа недалечка ад Каралеўскай вуліцы, цокаль, на якім стаяў бюст Пушкіна, вывезены з Вільні расейцамі ў 1915 г. Тварэц «Онегіна» — адзін з наймагутнейшых корыфэяў Поэзіі наагул, але што яму адумысьля да Вільні, з каторай яго ніколі нічога не вязала? На думку нашу, не зьняважым Пушкіна ў найлягчэйшай меры, стаўляючы на цокалі яго разбуранага памятніка—бюст Сыракомлі.

Зробіць яго мясцовы, наш, віленскі артыста. А мы, жыхары гэтай зямлі лясных узгоркаў, зямлі зялёных лугоў, каторай ані на волас ня любім меней за вялікага поэта, які навет неба, ўзьнесенае над Барэйкаўшчынай, пачытаў за сваё, мы паставіўшы той бюст пад Замковаю гарою, аддамо яго Вільні. Хай праўнукі нашых дзяцей яшчэ схіляюць перад ім галовы і з гэтак прыгожых твораў Сыракомлі чэрпаюць вышу пачуцьцяў, шляхетнасьць, што спавівае глыбокае ўмілаваньне роднага краю. І калі скажуць, хоць-бы калісь там, цераз гады: «Быў гэта першы праблісак супольнай, творчай грамадзянскай працы на супольнай ніве дабра і харастваǃ..» у той час скажацца, што мы, скромныя прадстаўнікі чатырох аснаўных краёвых нацыянальнасьцяў, падымаем, вось, два заданьні: адно, спаўняючы акт піэтызму ў імя Культуры а Мастацтва, другое, пракладлаючы шляхі да новага часу, што стаіць пад сьветлым знакам Адзінства і Згоды.

Памятнік зроблены будзе як ёсьць, у працягу гэтае зімы, а прыведзены ў парадак, адкрыты і аддаты ў рукі места будзе ў першай палове траўня будучага году.

Кошты прадбачым, памяркоўна, невялікія. Конкурсу не абвяшчаем. Зварочуемся да грамадзянства—злажыць сумы да мільёну польскіх марак. Лісты складак „На памятнік Сыракомлі“ адчыніць можа захочуць, не адкладаючы і адначасна, газэты і журналы: польскія, літоўскія, беларускія і жыдоўскія. Падробная справаздача абвешчана будзе ў віленскай прэсе ў траўні будучага году.

Чэслаў Янкоўскі.
Міхал Біржышка.
Якуб Гольдшмідт.
Антон Лявіцкі.

27. X—1921 г.

## Пісьмо з Сыбіру.

Шаноўныя Паны Выдаўцы!

Зьвяртаюся да Вас з вялікай просьбай: калі ласка, прышлеце беларускай літэратуры, кніжак і газэт. Асабліва прышлеце тыднёвік „Беларускі Звон“. Я не адтрымаваю Віленскай беларускай прэсы болей ужо, як 5 гадоў. Жадаў-бы ведаць, што цяпер робіцца ў Віленшчыне; мяне надта інтэрасуець гэта краіна, бо я родам з Віленшчыны. Прыслаў-бы Вам грошы, але ня ведаю, як іх пераслаць; дайце раду. Калі ласка, таварышы, прышлеце беларускай літэратуры. З пашанай к Вам, беларус **З. Борка.**

Адрэс мой: гор. Киренск, Иркутской губ. Захару Борка.

## Паштовая скрынка.

Да усіх чытачоў і падпісчыкаў.

*Дзеля дарагоўлі друку й паперы некаторым падпісчыкам і наогул пробныя нумары не пасылаюцца. Просім выслаць грошы на падпіску, пасьля чаго, газэта будзе зноў высылацца.*

---

Прымаюцца ахвотнікі іграць **у струнным аркестры** Беларускага Музыкальна-Драматычнага Гуртка. Запісавацца можна ад 4 да 6 гадзіны ў памяшканьні Гуртка на Біскупскай вул., д. № 12.

---

пасварыць беларусаў між сабою, а пасьля, абязсіліўшы іх, аддаць у даўнейшую няволю, пад панаваньне новага цара і яго чыноўнікаў.

Рада Рэспублікі аднак верыць у сьветлы і здаровы розум народу Беларускаго і усіх дэмократычных народаў Беларусі, якія не дадуць сябе ашукаць хітрым ворагам Рэспублікі. Яна вядзе далей сваю працу, а для спаўненьня сваіх загадаў, яна устанавіла новы склад Рады Беларускіх Народных Міністраў, які павінен вывесьці Беларусь на сьветлы лепшы шлях, абараніць праўдзівую яе незалежнасьць і даць працоўнаму малазямельнаму народу зямлю, а работнікам дагаднейшыя варункі працы і склікаць Устаноўчы Сойм Беларускай Народнай Рэспублікі.

Перад сьвітаньнем новаго дня, які суліць нашай Бацькаўшчыне культурны росквіт і дзяржаўную незалежнасьць, павінны абудзіцца ўсе жывыя дэмократычныя сілы Беларусі. Усе, хто хоча бачыць сваю многапакутную Бацькаўшчыну — Беларусь вольнай, багатай і шчасьлівай, усе хто хоча, каб працоўны народ Беларусі ня знаў больш зьдзеку над сабою і няволі, няхай усюды злучаюць свае сілы ствараючы на мясцох Беларускія Рады, і зьвязуючы іх з Радаю Рэспублікі. Толькі ім, гэтым арганізацыям працоўнаго Народу Беларусі, належыць цяпер, да сазыву Устаноўчага Сойму ўлада ня мясцох, а ня Земству, ня чыноўнікам, ня ўсякім самазванцам і чужынцам. Толькі на іх павінен апірацца Беларускі Народны Урад у сваёй чыннасьці. Сам народ, абуджаны рэвалюцыяй, няхай бароніць сваю волю і незалежнасьць, права на сваю родную зямлю і месцо на сьвеці сярод усіх Народаў.

Чувайце грамадзяне Беларускай Народнаў Рэспублікі! Надыходзе гадзіна апошняго суду над народамі. Няхай-жа не пагасьне у сэрцах вашых жывы агонь замілавання да волі і агульна - грамадзкага шчасьця.

Няхай жыве незалежная Беларуская Народная Рэспубліка!

Няхай жыве працоўны народ Беларусі і солідарнасьць вольных народаў!

Няхай растуць Беларускія сялянскія і работніцкія Рады па ўсёй Беларусі!

**Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.**

28. XI. 1918. м. Менск.

Гэту Грамату, дэкляроцыю „Ад Рады Народных Міністраў“ і маленечкую абвестку аб тым, што Ўрад Беларускі пераехаў у Вільню доўга відаць было па рагох некаторых менскіх вуліц навет і пасьля прыходу бальшавікоў.

9-га сьнежня 1918 году, калі яшчэ апошнія нямецкія вайсковыя аддзелы ня ўскуралі пакінуць Менску, занялі яго бальшавікі.

**Краўцоў Макар.**

**(Працяг будзе).**

KRYNICA
Biełaruskaja sialanskaja hazeta
PRYMAJECCA PADPISKA na 1921 h. (V hod wydańnia)
Na hod 800 mk., na paŭhoda 150 mk., na 3 miesiacy 75 mk.
Adres: Wilnia, Zawalnaja wul. № 7, ad 9—6.

Вучыцялі й вучыцелькі!
Працуючы ў вёсцы, Вы лёгка можаце сабраць вялікую колькасьць беларускіх народных песьняў і гэтым ўкладзеце новы скарб у наш друк, прыслаўшы сабранае ў „БЕЛАРУСК ЗВОН“.

ПАПЯРОВАЯ і СУКОННАЯ **пража і ніці** розных гатункаў дзеля тканьня, шыцьця і вязаньня; можна дастаць на складзе
**„Т-ва Г. Жук і К-о“**
быўш. „А. ЖУК і СЫН“
**Нямецкая, № 26 (уваход праз суконны магазын Гордона).**

Друкарня „Віленскага Выдавецтва“ Б. Клецкіна, М.-Сьцяпанаўская, 23. Рэдактар-Выдавец ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ.